


Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# Культурны супраціў у Беларусі

выпуск 15 (28)

20 красавіка 2021

***Шквалам дажджу і ветру прыносіць дрэнныя навіны, але раптам з’яўляюцца жанчыны пад бел-чырвона-белымі парасонамі, і хлопчык у пераходзе спявае “Грай”, і мастакі ды мастачкі ствараюць карціны – іранічныя, кранальныя, і музыкі ладзяць канцэрты ды пішуць песні, ставяцца спектаклі пра надзённае, прылятаюць малюнкі з-за кратаў, мудрыя людзі падымаюць дух важнымі словамі... І мы жывем, і Беларусь жыве.***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД, ПАЛІТЫКА Ў СФЕРЫ КУЛЬТУРЫ

**Аляксандр Фядута, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, літаратар, рэдактар, журналіст, літаратуразнаўца, быў затрыманы 12 красавіка ў Маскве беларускім КДБ. Аляксандар Лукашэнка заявіў, што спадар Фядута разам з шасцю іншымі асобамі нібыта планавалі ажыццявіць ваенны пераварот і фізічную ліквідацыю Лукашэнкі і яго сыноў. Фігурантам справы пагражае да 12 гадоў турмы.**



Фота: svaboda.org



**Спектакль «Чарнобыльская малітва» па творы Святланы Алексеевіч, прымеркаваны да 35-й гадавіны на Чарнобыльскай АЭС, у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі быў заменены на іншы.**

**Працягваецца ціск на асобаў па справе Саюза палякаў. Пракуратура Гродна абвясціла афіцыйнае папярэджанне актывісту Саюза палякаў, журналісту Анджэю Пісальніку, які ў пачатку красавіка ў эфіры польскіх радыёстанцый «Radio 24» і «Radio 4» выказаў шэраг меркаванняў датычна «распачатай беларускімі СМІ маштабнай прапаганды супраць Польшчы».**



Фота: baj.by

**У СІЗА Брэста і Магілёва не дазваляюць перадаваць зняволеным кнігі, часопісы і сканворды.**



Артыстку аркестра Опернага тэатра Настассю Пятрову звольнілі з працы, бо 27 сакавіка яе затрымалі і пакаралі 15-суткавым арыштам.







Таццяну Гацуру-Яворскую 15 красавіка адпусцілі з мінскага СІЗА №1, пракаментаваўшы, што адпала неабходнасць трымаць яе за кратамі.

Уладзімір Яворскі, муж Таццяны, быў вымушаны пакінуць Беларусь пад пагрозай дэпартацыі на 10 гадоў. Цяпер ён у Кіеве.



Ціск на сям'ю грамадскай дзеячкі Таццяны Малашчанкі, актывісткі Таварыства Беларускай Мовы з Баранавічаў, працягваецца.
Дэпартаваны на тры гады яе муж, чыніцца шкода яе маёмасці.





20% работнікаў сферы культуры ўлады плануюць скараціць да канца 2021 года. На сёння ў гэтай сферы занята 65,5 тысяч чалавек, а заробкі – адны з самых нізкіх: 55,3% ад сярэдняга заробку па краіне.

# 2. СІМВОЛІКА



У Брэсце на **гербе Магілёва**, зацверджаным у 2005 годзе (у такім выглядзе ён быў падораны гораду ў 1661 годзе каралём польскім і вялікім князем літоўскім Янам Казімірам) «Пагоню» <u>зафарбавалі</u> белым. Праз некалькі дзён герб увогуле знялі.






**Уезд у горад Бяроза** пафарбавалі ў чырвона-зялёны.







Бела-чырвоны надпіс на **мяжы Берасцейскай вобласці** <u>перафарбавалі</u> ў бела-блакітны.



За гірлянду на акне – 15 сутак атрымаў **Дзмітры Ганчароў**, суд пастанавіў таксама знішчыць гірлянду.

Працягваюць прысуджаць штрафы і адміністратыўныя арышты за сцягі, «Пагоню» і палоскі на адзенні.

Нягледзячы на небяспеку, **жанчыны пад бел-чырвона-белымі парасонамі** смела і годна выходзяць на шпацыр па сваім горадзе.



Фота: tut.by

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ




**14 красавіка адбылася першая анлайн-сустрэча Інтэлектуальнага клубу Святланы Алексіевіч. Тэма сустрэчы «Чаму „чырвоны чалавек“ баіцца гісторыі?»**




**Мастак Аляксей Хацкевіч у сваім Facebook абвясціў аўкцыён у падтрымку звольненай Настассі Пятровай, прапанаваўшы набыць сваю карціну пад назвай «Прабуджэнне».**

**Яўген Лукашэвіч,**
**малюнкі з 15 сутак, праведзеных у Лідскім ЦІП**







**Уладзімір Цэслер**
**«Магутны Божа. Вольны хор»**

**allkimiya**
**«Самыя смелыя, самыя моцныя, самыя…»**





**Ліля Квацабая**
**«Заткни_сь»**

**Вольга Якубоўская**
**«Пагоня – наш герб і наш гімн!”**





**<u>Песня</u> «Братка» – музычны адказ і рэфлексія гурта ZVONKU «на тыя падзеі і крызіс, у якім апынулася грамадства».**



**Артысты Перамогі: Алег Хаменка з праграмай «Актуальны сонцаварот» выступіў <u>анлайн</u> 17 красавіка.**

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Віталь Гуркоў, вакаліст панк-гурта BRUTTO,**
**беларускі кікбаксёр, шматразовы чэмпіён свету:**
***«Трэба пратрымацца да 12-га чэмпіёнскага раўнду. Дакладна, палову раўндаў мы ўжо прайшлі. Якімі будуць наступныя раўнды, яшчэ ніхто не ведае. Трэба быць мацнейшымі, больш асцярожнымі і ўважлівымі, не губляць канцэнтрацыі. І ўсё будзе добра».***



**Таццяна Гацура-Яворская правяла 10 сутак у СІЗА, яе выпусцілі без выстаўлення абвінавачвання. Яна распавяла, як трымаюцца жанчыны-палітвязні.**
***«Адзінае глабальнае пытанне, якое хвалюе людзей, што знаходзяцца зараз за кратамі: ці не дарма я тут знаходжуся?»***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




**Ірландскія кінематаграфісты-дакументалісты выказалі салідарнасць з Таццянай Гацурай-Яворскай, патрабуючы яе вызвалення і заклікаючы калег зрабіць тое самае.**

**Еўрапейская кінаакадэмія і больш як 50 кінаарганізацый заклікалі вызваліць Таццяну Гацуру-Яворскую.**





**ПЭН-Масква і асацыяцыя «Вольнае слова» выступілі з заявай у падтрымку Аляксандра Фядуты, пад ёй падпісаліся 80 вядомых літаратараў, журналістаў і перакладчыкаў.**

**Больш за 60 польскіх літаратуразнаўцаў падпісалі ліст з патрабаваннем вызвалення Аляксандра Фядуты.**



Ілюстрацыя Аліны Кугушавай, team29.org




**Польскі ПЭН-клуб патрабуе неадкладнага вызвалення Аляксандра Фядуты.**

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**Чатыры чалавекі, якія дбаюць пра культурнае развіццё Беларусі – Марыя Калеснікава, Андрэй Пачобут, Дзмітрый Казлоў і Іван Канявега, – у красавіку адзначаюць дзень нараджэння за кратамі. Вы можаце павіншаваць іх, падрабязнасці па спасылцы.**

